# КАРЫКАТУРА - СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ

***Паважаныя чытачы, вы, мабыць, звярнулі ўвагу на карыкатуры, што змяшчаюцца на старонках нашай газеты. Іх аўтар - барысаўскі мастак Л.Гадун. Яго ж малюнкі вы маглі бачыць у сатырычным часопісе "Вожык", гумарыстычнай газеце "Пікнік" і ў іншых беларускіх выданнях. У гэтым нумары "ГБ" мы працягваем друкаваць малюнкі Л.Гадуна і прапануем вам яго кароткую даведку аб жанры карыкатуры ў выяўленчым мастацтве.***

Сваю назву карыкатура атрымала ад італьянскага слова "карыкарэ", што абазначае "нагружаць", "перабольшваць", "скажаць". Малюнкі, блізкія да карыкатуры, вядомыя з далёкай даўніны, але іх цяжка кваліфікаваць як карыкатуры, бо ў іх яшчэ няма выразнай тэндэнцыі да высмейвання. Толькі ў XVIII стагоддзі з'яўляецца "чыстая" карыкатура, сапраўдным стваральнікам якой быў англійскі мастак У.Хогарт. Ён выканаў некалькі цыклаў карыкатур з вострым сацыяльным падтэкстам. Росквіт сатырычнага малюнка адносіцца да XIX стагоддзя, дзякуючы французскаму мастаку А.Дам'с, вялікаму змагару з існуючай у той час палітычнай сістэмай.

Сучасная карыкатура мае меншую палітычную скіраванасць, адлюстроўвае ўсе бакі чалавечага жыцця і яго асяроддзя. Пра карысць гумару і самаіроніі сказана ўжо так многа, што не хочацца і паўтарацца. На жаль, у нашай краіне не надаецца такой увагі да карыкатуры, як у заходніх краінах, дзе штогод на высокім узроўні праводзяцца выставы і конкурсы карыкатур, існуюць і ствараюцца музеі з лепшымі ўзорамі гэтага жанру мастацтва (дарэчы, такі музей існаваў нават у былой ГДР, дзе захоўвалася каля 10000 малюнкаў).

Спадзяемся, што і вы, паважаныя прыхільнікі нашай газеты, з яшчэ большай цікавасцю будзеце звяртаць сваю увагу на карыкатуры, а можа і самі паспрабуеце свае здольнасці ў гэтым накірунку. Дасылайце, калі ласка, нам свае малюнкі, тэмы да карыкатур, прапановы. Ні адзін ваш ліст не застанецца без нашай увагі.

***Л.Гадун.***






## ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?

Прагульваючыся ў чарговы раз па Барысаву і назіраючы за рознымі шыльдамі і надпісамі, я заўважыў адну цікавую заканамернасць. Частка надпісаў робіцца па-беларуску, частка - па-руску, частка - на трасянцы. Аднак, ёсць група надпісаў, якая выконваецца выключна на рускай мове. Гэта абвесткі аб штрафе за безбілетны праезд у аўтобусах, забарона і штраф за ўтварэнне звалак смецця ў неадпаведных месцах і іншая падобная інфармацыя.

Чаму такія надпісы робяцца выключна па-руску? Што гэта, адбітак грамадскай думкі аб правапарушальніках? Форма дыскрымінацыі рускамоўнага насельніцтва? Ці можа беларускамоўнага? Я губляюся ў дагадках. Можа хто з чытачоў здольны гэта растлумачыць?

***Ян Юроўскі.***

# МАЛАДНЯК БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Такую назву ў дваццатых гадах нашага стагоддзя меў часопіс, які выдавала барысаўская філія літаратурнай групы "Маладняк" і тутэйшы акругкам ЛКСМБ. Літаратурная група "Маладняк" была ўтворана ў Менску 28 лістапада 1923 года. Яе барысаўская філія існавала з красавіка 1925 года і ставіла ў якасці асноўнай мэты згуртаванне вакол сябе беларускіх паэтаў і пісьменнікаў Барысаўшчыны. У тутэйшую арганізацыю ўваходзілі Паўлоўскі, Ніўны, Мурашка, Фамін, Касцюк, Гаеўскі, Новік, Жызнеўскі, Равуцкі і інш. У 1926 годзе быў выдадзены першы нумар часопіса "Маладняк Барысаўшчыны". У яго рэдкалегію ўваходзілі Мальцар, Аляхновіч і Мурашка.

Безумоўна, дзейнасць групы "Маладняк" і яе творчасць мелі моцны ідэалагічны адбітак, які быў уласцівы таму часу. Далёкімі ад дасканаласці былі многія творы маладнякоўцаў. Аднак сам факт існавання ў тыя часы літаратурнага аб'яднання на Барысаўшчыне і выданне яго часопіса - з'явы вельмі цікавыя і вартыя таго, каб мы пра іх памяталі.

Адзін з тагачасных тутэйшых маладнякоўцаў - Тодар Паўлоўскі - хлопец у шэрай сялянскай світцы, з якой быў непадзельны. Яго творчасць была дастаткова разнастайнай. У прыватнасці ім была напісана п'еса ў трох актах "Жыхары лесу", якая ставілася барысаўскай філіяй "Маладняка" ў час адзначэння сваёй гадавіны. Сёння мы прапануем сваім чытачам адзін з яго вершаў, які быў надрукаваны ў часопісе "Маладняк Барысаўшчыны", №1.

## Барысаў

**Мінулым славен і каштовен,**
**Дарыўшы гонар чужакам -**
**Бяз ліку бураны, дратован,**
**Мо ў соты раз адбудаван.**

**Ажыў як волат пасля бойкі...**
**На целе раны зіхацяць -**
**Нага ж дрыжачая з запалам**
**Імкнецца ворага таптаць.**

**Мой любы краю, горад родны.**
**Чаго, чаго ня зведаў ты.**
**Гадоў вялікага змагання**
**Наўкол раскіданы сляды:**

**Тут Чычагоўскае вар'яцтва:**
**Равы і наспы, дол - гарой.**
**Ёсць году пятага ахвяры:**
**Скляпы паросшыя травой.**

**А вынік панскага банкету,**
**І роспач белага арла -**
**Упісан кроўю ў памяць люду**
**Падковай ўласнага каня.**

**Шчэ так нядаўна-кожны помніць -**
**Руіны грэлі чарнатоі:**
**Цяпер электрыка галубіць**
**Паўстаўшы гораду прастор.**

**Сэрца весела так б'ецца,**
**Ўторыць радасна на вокал,**
**То аўтобусаў рыканнем,**
**То грымотай цягнікоў.**

**Дні бягуць, мацнее сіла,**
**Раны хутка гоіць час,**
**Краю родны, говар любы,**
**Вось за што кахаю вас.**

***Падрыхтаваў А.Барэвіч.***

***Вершы пішуць многія. Дакладней, спрабуюць пісаць. Людзей, якія займаюцца гэтым прафесійна, таленавіта, - адзінкі. Сярод іх Таццяна Зіненка. Патрабавальная, прыдзірлівая да сябе як да творцы, яна не спяшаецца з выданнем кнігі (такая магчымасць была).***

***Друкуючы яе верш, жадаем таленавітай паэтцы жыццёвых і творчых удач.***

**І на сваёй зямлі**
**Не знойдзеш паратунку,**
**Як зернейка ў раллі**
**Чысцейшага гатунку.**

**Узыдзеш і глядзіш -**
**Навошта нарадзіўся?**
**І на сваёй зямлі ж,**
**І нібы памыліўся.**

**Да смерці толькі крок,**
**А жыць шчэ столькі крокаў.**
**А што, калі знарок,**
**За вока - вока?**

**А што, калі ізноў**
**Свайму народу**
**Вярнуць былую кроў -**
**Свабоду?..**

# КРЫЖАВАНКА

Адгадайце дзевяць слоў, што размешчаны па гарызанталі. Пасля гэтага вызначце прозвішча аўтара кнігі "Борисов и Борисовский уезд в войну 1812 года", якая была выдадзена ў 1914 годзе **(1 па вертыкалі).**

**Па гарызанталі:** 2 - сучасная назва вёскі Запліссе; 3 - рака на Барысаўшчыне, трэцяя па сярэднягадавому расходу вады; 4 - сучасная назва вуліцы ў Барысаве, якая ў XVIII - XIX стагоддзях мела назву Шведская; 5 - вёска, цэнтр сельсавета; 6 - вуліца ў цэнтры старой часткі Барысава; 7 - гістарычная назва вёскі Вішнёвая; 8 - цэнтральная вуліца ў вёсцы Вялікае Стахава; 9 - возера, якое знаходзіцца каля Бярэзіны недалёка ад вёскі Бягі; 10 - правы прыток Бярэзіны.




**Адказы на крыжаванку**, што была змешчана ў "ГБ" №1(4): 2 - Замошша; 3 - Чапаева; 4 - Каладзееў; 5 - Гаравец; 6 - Жартайка; 1 - Сапега

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Згодна перапісу насельніцтва 1897 года вынікае, што ў Барысаве:

колькасць насельніцтва складала 15063 чалавек (8549м. + 6514ж.), у тым ліку 2239 вайскоўцаў (14.9%);

сярод насельніцтва было тых, хто нарадзіўся ў Барысаўскім павеце 10313 чал. (68,4%), тых, хто нарадзіўся ў іншых паветах Мінскай губерні 749 чал. (5,3%), у іншых губернях 3930 чал. (26,1%), іншых дзяржавах 26 чал.(0,2%);

узроставы склад барысаўцаў быў наступны - да 9 год 3304 чал. (21,9%), ад 10 да 19 год 3136 чал. (20,8%), ад 20 да 29 год 4409 чал. (29,3%), ад 30 да 39 год 1588 чал. (10,5%), ад 40 да 49 год 1067 чал. (7,1%), ад 50 да 59 год 763 чал. (5,1%), ад 60 да 69 год 520 чал. (3,5%), ад 70 да 79 год 199 чал. (1,3%), ад 80 да 89 год 64 чал. (0,4%), ад 90 да 99 год 4 чал. (0,03%);

пісьменных было 6274 чалавекі (41,7%), з якіх мужчын 4254 (49,8%), жанчын 2020 (31,0%);

адукацыю вышэй пачатковай мелі 271 чалавек (1,8%);

па веравызнанню насельніцтва размяркоўвалася наступным чынам - праваслаўных 5481 чал. (36,4%), стараабрадцаў 178 чал. (1,2%), каталікоў 1404 чал. (9,3%), пратэстантаў 104 чал. (0,7%), магамецян 174 чал. (1,2%), іудзеяў 7722 чал. (51,2%);

сярод тутэйшых праваслаўных (разам з вайскоўцамі) было: рускіх 2305 чал. (42,1%), украінцаў 394 чал. (7,2%), беларусаў 2754 чал. (50,2%), палякаў 25 чал. (0,5%);

сярод тутэйшых каталікоў (разам з вайскоўцамі) было: рускіх 83 чал. (5,9%), украінцаў 1 чал. (0,1%), беларусаў 560 чал. (39,9%), палякаў 711 чал. (50,6%);

сярод тутэйшых вайскоўцаў было рускіх 1349 чал. (58,9%), украінцаў 358 чал. (15,6%), палякаў 170 чал (7,4%), татар 154 чал (6,7%), беларусаў 117 чал. (5,1%), яўрэяў 55 (2,4%), немцаў 33 чал. (1,4%), літоўцаў 28 чал. (1,2%), латышоў 10 чал. (0,5%), усіх астатніх 19 чал. (0,8%).

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ
Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі:
І.Белы,
У.Буйко,
У.Дубаневіч,
М.Мацельскі,
М.Пучыла.
Рэдактар М.Мацельскі
Юрыдычны адрас рэдакцыі:
г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1
Наклад 4000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 17.00 17.04.99 г.
Замова №
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў:*
*222120, Барысаў-1, а/с 43*